№ 36 (3777)

7 мая 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Наступны нумар “Народнай Волі” выйдзе 10 мая.**

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**СА СВЯТАМ!**

# З надыходзячым Днём Перамогі!



## Звонок однополчанину по мобильному будет бесплатным

*Ветераны смогут 8, 9 и 10 мая бесплатно позвонить и поздравить своих однополчан, находящихся в любой точке Беларуси и в других странах мира. Для этого им надо будет посетить салоны связи мобильного оператора МТС, расположенные в столице, областных и районных центрах.*

Кроме того, на столичных площадках праздничных мероприятий, которые пройдут 9 Мая, будут развернуты мобильные переговорные пункты.

Ветеранам надо взять с собой номера телефонов, по которым они желают позвонить. Сотрудники МТС в свою очередь окажут необходимую помощь: наберут нужный номер и найдут код города.

**ПАД ГРАДУСАМ**

## Да плюс 30!

**8 мая** ападкаў у Беларусі не прагназуецца, ноччу і раніцай згусціцца слабы туман. “Тэмпература паветра ўначы складзе 6—12 градусаў цяпла, днём паветра прагрэецца да 20—26 градусаў, па паўднёвым захадзе краіны будзе цяплей — да плюс 28 градусаў”, — робіць прагноз сіноптык **Дзмітрый Рабаў.**

***9 мая*** таксама без ападкаў, ноччу і раніцай чакаецца слабы туман. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 8—14 градусаў, днём паднімецца да плюс 23—28 градусаў, па поўдні краіны месцамі будзе яшчэ цяплей — да 30 градусаў.

***10 мая*** будзе пераважна без ападкаў, толькі днём па паўночным захадзе краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы, месцамі з навальніцамі. Ноччу паветра прагрэецца да плюс 9—15 градусаў, днём — да 23—28 градусаў, месцамі па Гомельскай вобласці тэмпература паветра падымецца да плюс 30 градусаў. Толькі па паўночным захадзе краіны будзе воблачна, дажджліва, але цёпла: там паветра прагрэецца да плюс 18—22 градусаў.

“***У суботу і нядзелю, 11 і 12 мая,*** больш свежыя і вільготныя паветраныя масы, якія пачнуць паступаць у Беларусь з Балтыйскага мора, могуць прынесці з сабой кароткачасовыя навальнічныя дажджы”, — кажа сіноптык. Пры навальніцах чакаецца ўзмацненне ветру з парывамі да 15—20 метраў у секунду.

***11 мая*** тэмпература паветра ноччу складзе плюс 6—11 градусаў, днём будзе цяплей — да 13—19 градусаў, мацней паветра прагрэецца па паўднёвым усходзе краіны, дзе ноччу прагназуецца да 12—14 градусаў, днём да 20—25 градусаў.

***12 мая*** тэмпература паветра ноччу складзе плюс 3—9 градусаў, на глебе чакаюцца слабыя замаразкі ад 0 да мінус 2 градусаў. Дзённая тэмпература ў гэты дзень будзе вар’іравацца ў дыяпазоне ад 13 да 19 градусаў вышэй за нуль. Па паўднёвым усходзе краіны ноччу прагназуецца плюс 10—12 градусаў, днём паветра прагрэецца да 20—25 градусаў.

**ГРОМКОЕ ДЕЛО**

*Ровно 14 лет назад по дороге домой был насильственно похищен экс-министр внутренних дел Юрий Захаренко.*

*Ульяна ЗАХАРЕНКО:*

# «Сколько мне еще ждать?..»

***Ульяна Захаренко****, мать пропавшего генерала, просит генерального прокурора* ***Александра Конюка*** *взять под свой контроль расследование дела об исчезновении ее сына.*



Об этом она просит в своем письме, которое вместе с очередной жалобой передал в прокуратуру юрист **Олег Волчек**.

Вот некоторые цитаты из письма, адресованного генеральному прокурору.

“7 мая 1999 года мой сын, бывший министр МВД Республики Беларусь Юрий Николаевич Захаренко в общественном месте, на глазах у прохожих, был насильственно похищен группой лиц и увезен в неизвестном направлении.

Уголовное дело по факту убийства было возбуждено 17 сентября 1999 года. Расследование проводила прокуратура города Минска до 1 января 2012 года, а с указанной даты дело расследует Следственный комитет Республики Беларусь. Предварительное расследование проводится до настоящего времени.

На протяжении всего периода расследования уголовного дела, органом предварительного расследования выносилось один раз (2003 год) постановление о приостановлении предварительного расследования в связи с неустановлением лиц, причастных к похищению Юрия Захаренко.

За все время расследования ни органы прокуратуры, ни Следственный комитет не предоставляли семье либо нашим представителям никакой конкретной информации о том, как проводится предварительное расследование, кто является подозреваемым по делу, были ли допрошены высшие должностные лица страны, которые, возможно, причастны к похищению моего сына.

Нами направлялось около 15 жалоб, ходатайств и заявлений с просьбой дать полную информацию о проделанной работе следственными органами. Мы прилагали доказательства, которые были собраны Общественной комиссией по расследованию обстоятельств исчезновения Юрия Захаренко, о лицах, причастных к его похищению.

Однако мы всегда получали один и тот же ответ (*около 35 уведомлений*), как и сейчас “*...Срок предварительного расследования по уголовному делу № 110352 по факту исчезновения Захаренко Ю.Н. продлен, о результатах расследования Вам будет сообщено дополнительно...”*

...Создается впечатление, что Следственный комитет, как и ранее следователи прокуратуры, проводят формальное расследование, которое только в том и заключается, чтобы каждые три месяца продлевать срок предварительного расследования. И поэтому есть основания полагать, что следователи не самостоятельны в своих решениях, поскольку за 14 лет предварительного расследования провели бы все процессуальные действия для установления исполнителей и организаторов похищения Юрия Захаренко.

Так, согласно постановлению о возбуждении ходатайства о продлении срока предварительного расследования по делу Ю.Захаренко от 19.06.2006 года, следователь прокуратуры г.Минска С.Г.Кухаренок не сообщает, какие он собирается выполнять следственные действия для установления местонахождения Захаренко Ю.Н. *“...По уголовному делу 24.06.2006 года истекает срок предварительного расследования, который составляет 6 лет и 4 месяца. Закончить предварительное следствие в указанный срок не представляется возможным, так как по делу необходимо выполнить большой объем следственных действий, направленных на установление местонахождения Захаренко Ю.Н., для чего потребуется срок не менее трех месяцев...”.*

Из этого документа не видно, в чем выразилась необходимость продлить срок расследования. Нет конкретного плана о проведении каких-либо следственных действий. Это еще раз подтверждает, что следствие не проводит объективного расследования, не принимает мер для привлечения к уголовной ответственности обвиняемых за похищение Юрия Захаренко.

Не имея такой информации до настоящего времени **(*14 лет предварительного расследования!*),** мы как потерпевшие не видим, принимал ли орган предварительного расследования все предусмотренные законом меры по всестороннему, полному и объективному исследованию обстоятельств дела для правильного его решения, защиты прав и законных интересов потерпевших...”

Ульяна Захаренко просит **Александра Конюка** “*истребовать дело по факту насильственного похищения Юрия Захаренко из Следственного комитета и дать правовую оценку того, принял ли орган предварительного расследования все предусмотренные законом меры по всестороннему, полному и объективному исследованию обстоятельств дела”,* а также предоставить полную информацию о проведенной за 14 лет работе *“по установлению всех обстоятельств насильственного похищения Юрия Захаренко”.*

Ответит ли генпрокурор Ульяне Захаренко или поручит составить отписку своим замам, как это практиковали его предшественники на этом посту, покажет время.

“***У меня к Вам просьба, чтобы Вы взяли под свой личный контроль дело моего сына Юрия Захаренко***, — просит Ульяна Григорьевна Александра Конюка. — ***Также прошу Вас лично дать мне ответ по данному обращению. Мне уже 89 лет, я жду 14 лет новостей от следователей, но каждый год, одно и то же — “после расследования о результатах Вам будет дополнительно сообщено”. Сколько мне еще ждать?..”***

**Марина КОКТЫШ.**

**В ТЕМУ**

## Активистам ОГП отказали в проведении пикетов по поводу годовщины исчезновения Захаренко

*Об этом сообщил председатель ОГП Анатолий Лебедько.*

*“Подавали около 60 заявок на проведение пикетов во всех областях и в Минске. Не получили ни одного позитивного ответа. Как и в прошлом году, власти немотивированно отказывают в проведении акций по проблемным темам. В ответе, который пришел на мою заявку на проведение пикета, отказ объясняется тем, что не выполнены нормы законодательства, но не объясняется, какие именно”*, — сказал Лебедько.

По его словам, активисты ОГП 7 мая планируют *“заниматься информационной деятельностью по делам пропавших”* как среди простых граждан, так и среди сотрудников милиции.

**ДНІ ЛІТВЫ Ў БЕЛАРУСІ**

*Эвалдас ІГНАТАВІЧУС, пасол Літвы ў Беларусі:*

# «Кожны другі пасол вяртаецца з Беларусі міністрам»

*Новы Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Літвы ў Беларусі падчас адкрыцця Дзён Літвы прызнаўся, што вывучае беларускую мову і плануе застацца ў Беларусі на ўсю кадэнцыю.*

Праграма сёлетніх Дзён Літвы, што распачаліся 3 мая, надзвычай разнастайная. Такімі ж разнастайнымі былі госці літоўскай амбасады на адкрыцці Дзён. Ад тэатралізаванага музычнага праекта “Радзіме прысвячаю здабытак, працу і жыццё” атрымлівалі асалоду пасол Беларусі ў Літве **Уладзімір Дражын**, архіепіскап, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскай епархіі Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі **Тадэвуш Кандрусевіч**, драматург **Андрэй Курэйчык** і іншыя знаныя асобы.

Гаспадарыў на вечары пасол Літвы ў Беларусі **Эвалдас Ігнатавічус**. Дыпламат — новая асоба ў беларускай палітычнай прасторы. Аб сваім прызначэнні спадар Ігнатавічус выказаўся з гумарам.



“*Кожны другі пасол вяртаецца з Мінска міністрам,* — усміхнуўся спадар пасол. — *У гэтым годзе я кожны першы. Гэтая пасада добрая, але складаная — паслы бываюць тут чатыры месяцы, год. А я хачу прабыць тут усю кадэнцыю”*.

Як вядома, у кожным жарце ёсць толькі кропля гумару. Былы пасол Літвы ў Беларусі **Лінас Лінкавічус** пасля свайго заўчаснага вяртання ў Вільнюс заняў пасаду міністра замежных спраў. Пачынанні, якімі займаўся Лінкавічус у Мінску, не будуць забытыя і пры новым дыпламатычным прадстаўніку Літвы. Той жа праект па стварэнні Літоўскага цэнтра ў беларускай сталіцы — план прыярытэтны.

“*Думаю, не чакаючы фармальных рашэнняў, можна пачынаць з канкрэтных праектаў, якія вырастуць у нешта больш трывалае*, — сказаў для “Народнай Волі” Эвалдас Ігнатавічус. — *Наша амбасада таксама няблага спраўляецца з місіяй папулярызацыі культуры, але наша прастора даволі замкнёная. Думаю, культурны цэнтр неабходны. Тым больш што Мінск і Вільнюс — суседнія сталіцы, якія звязвае шмат агульнага.*

*Тое ж самае можна сказаць аб беларускім цэнтры ў Вільнюсе. Я ведаю, што ёсць ідэя аб стварэнні беларускай галерэі ў літоўскай сталіцы...”*

Зараз спадар Ігнатавічус знаёміцца з беларускай культурай і актыўна займаецца мовай — хоча *“размаўляць так прыгожа, як беларускі пасол у Літве Уладзімір Дражын”*.

*“Ужо каля васьмі гадзін я прысвяціў вывучэнню беларускай мовы ў Літве перад выездам у Мінск,* — прызнаўся пасол. — *Я займаўся з выкладчыцай нашага педагагічнага ўніверсітэта. Беларускую мову разумею добра, чытаю, магу нешта сказаць. Але справа ў тым, што я, як філолаг, не люблю размаўляць на мове, якой валодаю не на 100%. Так што пакуль я больш чытаю. Буду старацца пераходзіць на больш вольнае ўжыванне беларускай мовы”*.

Былы пасол Славакіі ў Беларусі **Марыян Серватка** калекцыяніруе карціны, пасол Францыі **Мішэль Рэнеры** не прапускае ніводнага плэнера, **Эвалдас Ігнатавічус** таксама мае свае культурныя планы, звязаныя з Беларуссю. Прычым у яго выпадку даследаванне беларускіх краявідаў стане добрым сямейным хобі.

*“Я прыехаў у Мінск з супругай і дачкой, але жонка працуе ў Вільнюсе, а дачка там вучыцца*, — патлумачыў “Народнай Волі” дыпламат. — *Пакуль у нас такое чаўночнае жыццё — я часта езджу ў Вільнюс па службовых справах, а таксама па выхадных. Зараз сюды прыехалі жонка і дачка. Так і жывём паміж дзвюма сталіцамі. Але Мінск і Вільнюс вельмі блізка — 177 кіламетраў. Некаторыя сем’і ў Літве ездзяць і 300 кіламетраў. Напрыклад, з Клайпеды на працу ў Вільнюс.*

*Пакуль я жыву так, і гэта дае цікавую магчымасць параўноўваць гарады і краіны. Падчас працы ў Германіі я наведаў усе нямецкія землі, вельмі хацеў усё паглядзець, пабачыць. Тое ж самае збіраюся рабіць і ў Беларусі. Зараз у мяне ёсць цудоўная магчымасць адкрыць суседні край, які хоць і блізка, але знаёмы мала”*.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**



**ПАЗІЦЫЯ**

## Міклаш Харашці патрабуе вызваліць палітзняволеных

### А таксама расследаваць гучныя знікненні

Беларускім уладам рэкамендавана неадкладна і без усялякіх умоў вызваліць з турмаў усіх палітычных апанентаў, праваабаронцаў і актывістаў.

Пра гэта гаворыцца ў дакладзе, які прадставіў для азнаямлення Савету ААН па правах чалавека спецдакладчык па сітуацыі ў Беларусі **Міклаш Харашці**.

Даклад плануецца разгледзець падчас 23-й сесіі Савета. Яна пройдзе з 27 мая па 14 чэрвеня ў Жэневе.

Харашці адзначае, што сітуацыя з палітвязнямі выклікае глыбокую занепакоенасць. Умовы іх утрымання ў турмах ён расцэньвае як неналежныя, а часам і як катаванні.

Таксама беларускаму ўраду рэкамендавана ***ліквідаваць усе перашкоды, якія замінаюць актыўнаму ўдзелу грамадскіх няўрадавых арганізацый і апазіцыйных партый у палітычным жыцці краіны.***

Афіцыйнаму Мінску рэкамендавана ***апублікаваць вычарпальную інфармацыю па выкананых смяротных прысудах і неадкладна ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне.***

Харашці рэкамендуе ***расследаваць выпадкі гвалтоўнага знікнення некалькіх беларускіх палітыкаў і журналіста Завадскага, пазбаўленне ліцэнзій і пераслед адвакатаў, якія абаранялі фігурантаў “справы 19 снежня 2010 года”, гарантаваць поўную незалежнасць судовай сістэмы і суддзяў у Беларусі.***

Ёсць у дакладзе і рэкамендацыя ***перагледзець і прыняць такое заканадаўства, якое “будзе абараняць мірныя сходы, у тым ліку спантанныя акцыі”.***

Харашці звяртае ўвагу на тое, што так і не атрымаў магчымасці наведаць Беларусь для азнаямлення з сітуацыяй на месцы. Нагадаем, што беларускія ўлады адмовіліся супрацоўнічаць з ім.

БОЛЬ

# Верните деньги!

26 марта в президентской газете "Советская Белоруссия" опубликован материал о "Прямой линии" читателей газеты с председателем правления Национального банка Надеждой Ермаковой. Валентина Васильевна из Кировска с болью в сердце спрашивала главу Нацбанка: "В 1993 году мой муж открыл пятерым нашим внукам денежные вклады — по 5 тысяч каждому. На то время это были неплохие деньги. Сегодня — копейки. Сберкнижки мы до сих пор храним. Но хотелось бы знать, что будет дальше с этими вкладами?" И вот что ответила, ничуть не смутившись, на этот, уже давно волнующий сотни тысяч обобранных до нитки вкладчиков вопрос Надежда Андреевна: "*В ближайшее время выплат по таким вкладам ожидать не стоит. Для этого из бюджета страны необходимо выделить очень большие деньги. Пока такой возможности у государства нет*".

Но Валентина Васильевна не унималась: "В бюджете нет денег?" И госпожа Ермакова доходчиво, со знанием дела пояснила: *"Есть, конечно. Но деньги не берутся из ниоткуда — бюджет формируется из тех налогов, которые платят промышленные предприятия и обычные граждане. Все, что поступило в бюджет в качестве налогов, распределено на другие цели — нужды здравоохранения, образования и ряд других социальных вопросов. В том числе и* ***на выплату пенсии,*** *которую вы получаете..."*

Тут сразу же невольно вспоминается меткая народная присказка: "Есть, но не про вашу честь". Именно эту мысль глава Нацбанка пытается внушить белорусским гражданам уже не в первый раз и, видимо, не в последний.

Хочу еще раз пояснить Надежде Андреевне, что возврат "сгоревших" сбережений — это вовсе не государственная и банковская благотворительность, а их прямой долг, священная обязанность перед ими же бессовестно обворованными вкладчиками. Ведь всем (похоже, только кроме наших банкиров и госчиновников) хорошо известно, что еще в марте уже далекого 1992 года руководителями стран СНГ было подписано международное соглашение о признании и обслуживании внутреннего долга СССР. Долг "распилили" по территориальному признаку (долг РСФСР перешел России, УССР — Украине, БССР — Беларуси и т.д.) и решили, что с января 1992 года каждая страна — участница СНГ будет обслуживать свой "кусок" из собственного бюджета. Кроме того, Россия взяла на себя возврат всех международных долгов СССР.

Неплохо было бы вспомнить также, что "сгоревшие" сбережения наших граждан в сумме 16,4 миллиарда советских рублей были признаны долгом белорусского государства. И что в соответствии со специальным указом президента правительством страны было принято решение об образовании специального государственного фонда компенсации вкладов, средства которого **не входили в состав госбюджета, то есть не могли быть использованы на иные, даже чрезвычайно важные, цели.** Были определены и источники пополнения этого фонда: **суммы, поступающие в возмещение незаконно полученных в период до 1996 года кредитов на строительство квартир; поступления от приватизации республиканской собственности в размере 50 процентов;** добровольные взносы **субъектов хозяйствования, средства от размещения государственных ценных бумаг** и так далее.

Как видите, уже тогда правительство прекрасно знало (в отличие от теперешних госчиновников и банкиров), где и как найти деньги, чтобы рассчитаться с ограбленным населением. И решение было принято справедливое. И это понятно: вклады населения не складывались в банках просто в мешки и не хранились там просто так десятилетиями (тогда их могла бы съесть не только инфляция, но и обыкновенные мыши). Деньги вкладчиков (а это по тем временам были огромные суммы) незамедлительно инвестировались в развитие промышленности и сельского хозяйства республики. Это и на банковские сбережения обманутых граждан, а среди них абсолютное большинство — немощные старики, отдавшие все свои силы и здоровье на благо Отчизны, строились столичное метро и солигорские рудники, решались многие чернобыльские проблемы, вырастали белорусские промышленные гиганты, возводились Дворцы спорта, школы, больницы, учреждения культуры, обустраивались, наконец, старые и открывались новые сберкассы... Так что, оказывается, не все съела эта прожора-инфляция, будь она неладна. И сегодня исправно работают в Минске — метро, а в Солигорске — калийный комбинат. И заводы стоят целехоньки, и ни одна из школ и больниц и даже более трех тысяч бывших сберкасс (кстати, **безвозмездно** унаследованных вместе со всем офисным оборудованием и коллективами высококлассных специалистов на правах правопреемника "Беларусбанком") не были "надкушены" этой клятой-треклятой инфляцией.

Потому, хоть убейте, но я (да, думаю, и не только я) никак не могу понять, как могли обесцениться банковские вклады населения, материализованные в конкретные проекты еще задолго до прихода дефолта. По логике, они должны были не обесцениться, а многократно подорожать. Тем более что реализация за рубежом продукции построенных и за счет сбережений населения предприятий способствовала также и увеличению золотовалютных запасов наших банков.

А еще мне до боли в сердце хочется узнать, наконец, куда же все-таки девались сбережения людей, предоставленных на время государству? Дело в том, что в начале 1990-х годов наш, уже белорусский, Сбербанк развернул бурную деятельность по выдаче льготных кредитов коммерсантам, различного рода дельцам, проходимцам, решившим обзавестись дополнительными офисами, квартирами... Им охотно выдавались почти беспроцентные кредиты на строительство жилых "царских" дворцов и на обустройство частных фирм. Так и хочется спросить, почему эти "добрые", а точнее "преступные" деяния должны были осуществляться банком за счет обобранных вкладчиков? Почему незаконно полученные кредиты **были погашены инфляционными рублями?** Почему многие из таких кредитов были возвращены банку только после активного вмешательства президента? Думается, что на все эти вопросы еще в 1996 году более чем убедительно ответил тогдашний старший прокурор отдела по надзору за соблюдением законов в сфере экономики прокуратуры Республики Беларусь И.Сыроквашко: *"Выяснилась удручающая картина: из-за бесконтрольности банков немало граждан, в том числе руководителей, должностных лиц государственных предприятий, организаций, исполкомов, коммерческих структур, банковских работников незаконно получали льготные кредиты, многие из которых использовались не по назначению..."*

А более точно и конкретно сказал 9 марта 1999 года по этому поводу Александр Григорьевич Лукашенко: *"Была поставлена задача, не просто разобраться в данном вопросе, а вернуть стране те деньги, которые в свое время раздавались налево и направо не в меру щедрыми руководителями банковских структур. Подобная благотворительность слишком дорого обошлась нашему народу и государству... Банковская сфера распоряжалась народными средствами как хотела. А выдавались кредиты прежде всего друзьям, знакомым, родственникам, собственным детям..."*

Думаю, что вопрос "Откуда брать деньги на компенсацию сгоревших банковских сбережений?" теперь более-менее прояснился. Следует также сказать, что и сегодня наши банки-должники строят для себя шикарнейшие новые офисы, проводят дорогостоящие евроремонты старых, обустраивают их самой современной оргтехникой и мебелью, занимаются меценатством, благотворительностью и даже обзаводятся собственными санаториями, спортивными клубами и т.д. и т.п. Да и зарплата у банковских работников не самая маленькая в стране. И на все хватает денег, а вот хотя бы частично рассчитаться с обманутыми вкладчиками все никак не получается. Мне было даже неудобно читать сообщение в СМИ о том, что совсем недавно по чистой прибыли только один "Беларусбанк" занял второе место после "Беларуськалия". Интересно, где же они только смогли накопать такие сокровища? И за счет чего в прошлом году банк заработал 1,2 триллиона рублей прибыли — в 2 раза больше, чем в 2011 г., а в этом году уже и этот показатель запланировал увеличить на 16 процентов и довести до 1,4 триллиона рублей?



Почему при столь процветающих банках в Беларуси все еще существуют нищие обманутые вкладчики? Ведь проблема возврата украденных у народа банковских сбережений уже давно разрешена даже в наиболее бедных и менее социально ориентированных бывших республиках Советского Союза. Так, например, по сообщению одной из наших солидных газет, в странах Балтии уже давно рассчитались со своими гражданами, вернув им советские вклады, исходя из эквивалента "один доллар = 60 советских копеек". В других небогатых, но честных странах потерянные сбережения компенсировались частично наличными деньгами, а частично за счет освобождения обманутых вкладчиков от оплаты жилья, коммунальных и других услуг, кое-где потерпевшим выдавались акции наиболее доходных государственных предприятий, самих банков-должников, а также государственных долговых бумаг.

Заслуживает внимания, по моему разумению, и предложение Николая Ивановича Шенеца из агрогородка Сенница Минского района. *"Мы, владельцы советских сберкнижек,* — пишет он, — *уже немолодые люди, и у многих из нас до сих пор работают устаревшие телевизоры, холодильники, у кого-то мебель "в годах", ковры и одежда просятся на замену. Так, может быть, со многими из нас лучше бы рассчитаться выдачей банковских векселей на покупку товаров? Смотришь, и склады бы многих предприятий разгрузились".*

Короче говоря, во всех странах бывшего СССР уже давно рассчитались с ограбленным населением или ищут пути, как это сделать побыстрее и безболезненнее. Только у нас почему-то властные и банковские структуры все ждут у моря погоды. Так и хочется спросить: почему? В чем провинились наши ветераны, никогда не жалевшие для своей Родины ни сил, ни здоровья, перед своим самым социально ориентированным в мире государством и далеко не бедствующим "поистине народным" банком?

Как бы косвенно отвечая на этот волнующий многих вопрос, АСБ "Беларусбанк" (а теперь и Нацбанк РБ) в одном из своих комментариев тоже, ничуть не смутившись, замечает: *"Все упирается в источники финансирования. Если говорить об источниках, то можно однозначно сказать, что такие деньги очень большие для нашего государства..."* Я же более чем уверен, что наш президент, отдавая свои многочисленные распоряжения о разработке программы проведения второго этапа компенсации обесцененных вкладов, был прекрасно осведомлен о состоянии экономики страны. Не делал же он это, как кому-то думается, просто так, как говорят в народе, с кондачка. Поэтому нормальному человеку невозможно понять, почему еще и сегодня в Беларуси не реализовано (не удивляйтесь) ... предложение Нацбанка начать **с 1 января 2005 года второй этап компенсации обесцененных вкладов.** Ведь еще в ноябре 2004 года наши госгазеты не без гордости сообщали: "Национальным банком *в соответствии с поручением Президента* разработаны предложения по решению этой проблемы, которые направлены в Совет министров. В частности, для поэтапного осуществления дополнительной компенсации предлагается осуществить выплаты **в первом полугодии 2005 года ветеранам Великой Отечественной войны, во втором полугодии 2005 года — лицам, достигшим 80 лет..."**

Выходит, обнадежили стариков и опять забыли. Похоже, что нашим властным и банковским структурам наплевать на страдания и переживания наших святых доверчивых ветеранов. И их совершенно не волнует, что многие из "ограбленных" со слезами на глазах уходят от нас навсегда в мир иной, так и не дождавшись восстановления справедливости. Что же мы за люди? И имеем ли мы право ими зваться? А может быть, нашим ветеранам уже пора перестать терпеть все эти нечеловеческие издевательства и, как советует кандидат юридических наук Максим Знак, начать защищать свои явно справедливые интересы в судах?

И самое последнее. Во время "Прямой линии" Надежда Ермакова, вольно или невольно, намекнула Валентине Васильевне, что выплата ей пенсии теперь якобы напрямую зависит от компенсации ей потерянных сбережений. Уважаемая Надежда Андреевна, не мне, простому обывателю, вам пояснять, что пенсии граждан (как уже было сказано, компенсация украденных сбережений) это, насколько я понимаю, не государственная или банковская благотворительность, а простой возврат ранее перечисленных в госбюджет каждым работником пенсионных отчислений от зарплаты. И только. Ведь долг, как правило, у честных людей, структур всегда платежом красен. Видимо, наконец-то вспомнив эту истину, наши властные и банковские структуры и даже некоторые политологи чуть ли не со слезами на глазах, похоже, совершенно искренне возмущались, что на Кипре по инициативе (подстрекательству) Евросоюза беспардонно нарушаются **священные права на собственность.** Так и хочется спросить: а у нас кто повинен в нарушении этих прав?

**Константин РОМАНОВСКИЙ, пенсионер.**

*Минск.*

## В ТО ЖЕ ВРЕМЯ...

**Будто забыв о том, что белорусское государство не рассчиталось с людьми, обманутыми банковской системой, некоторые наши деятели на голубом глазу строят новые прожекты. Так, депутат Палаты представителей Людмила Добрынина адресовала главе государства странное предложение. Добрынина считает, что *"после конфискации банковских вкладов на Кипре многие деловые люди стали считать, что на Земле все меньше мест для спокойного и надежного хранения денег. Почему бы их не пригласить в Беларусь? В нашей стране есть возможность не только хранить деньги, но и эффективно вкладывать капиталы в экономику".***

**Александр Лукашенко, естественно, всегда готов.**

**— Мы готовы, если будут такие вложения, создать под них отдельные банки, чтобы там хранились эти деньги. И наш бизнес должен показать пример хранения денег в своих банках. Мы имеем сегодня 2 государственных банка, которые надо сделать соответствующими мировым стандартам. Их услугами смогут пользоваться и наши люди, не желающие показывать заработанные капиталы. В сохранности этих сбережений нет никаких сомнений. По крайней мере, мы бы никогда в жизни не залезли в чужой карман и не забрали чужие деньги, как это сделали демократы в Европейском Союзе. Теперь ни один европейский политик не имеет права упрекнуть россиянина или украинца, белоруса или еще кого-то на постсоветском пространстве в недемократичности, потому что самые недемократичные поступки — это когда ты отбираешь собственность.**

**Вот так! Как будто в Беларуси и нет проблемы возврата денег людям, которые когда-то подставили плечо государству и потеряли личные сбережения.**

АКТУАЛЬНО

## Как белорусы расходуют электроэнергию?

*Большинство семей в Беларуси не превысили базовый объем электропотребления после введения дифференцированной системы оплаты. Об этом сообщили в ГПО "Белэнерго".*

| Категория потребителей | Объем потребления / Доля абонентов | Объем потребления / Доля абонентов | Объем потребления / Доля абонентов |
|---|---|---|---|
| Абоненты в домах (квартирах), с электрическими плитами | до 250 кВтч / 85% | от 250 до 400 кВтч / 12% | более 400 кВтч / 3% |
| Абоненты в домах (квартирах), с газовыми плитами | до 150 кВтч / 77% | от 150 до 300 кВтч / 20% | более 300 кВтч / 3% |
| Абоненты в домах (квартирах), без электрических плит и систем централизованного горячего водоснабжения и снабжения природным газом | до 300 кВтч / 96% | более 300 кВтч / 4% | - |

*"Энергосбытовые организации провели анализ объемов электропотребления населением за март 2013 года,* — рассказали специалисты. — *85% абонентов, чьи дома оборудованы электроплитами, и 77% абонентов, чье жилье оснащено газовыми плитами, не превысили базовых объемов электропотребления (250 кВтч и 150 кВтч соответственно)".*

ПАДЛІЧЫЛІ...

## Антырэкорды

*Падзенне аб'ёмаў вытворчасці ў першым квартале гэтага года ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года па некаторых пазіцыях выглядае проста катастрафічным. Хто стаў "антырэкардсменам"?*

| Від вытворчай дзейнасці | Падзенне |
|---|---|
| Фарбы, лакі, эмалі і аналагічныя пакрыцці, друкарская фарба і масцікі | 95,8% |
| Пагрузчыкі аднакаўшовыя франтальныя самаходныя | 62,9% |
| Этыкеткі і цэтлікі папяровыя ці кардонныя | 60,1% |
| Тканіна, рашоткі, сеткі і агароджы з сталёвага або меднага дроту; металічныя сеткі з чорных металаў і медзі | 59% |
| Тралейбусы | 50% |
| Бутэлькі з бясколернага шкла і іншыя ёмістасці са шкла, акрамя слоікаў для кансервавання | 43,4% |
| Катлы цэнтральнага ацяплення | 42,6% |
| Даламіт некальцыніраваны ў выглядзе парашку (мукі) | 42,6% |
| Шпон габляваны | 38,2% |
| Дызельнае паліва, у тым ліку біяпаліва | 32,7% |

СІТУАЦЫЯ

## Даплаці за беларушчыну!

*Калі ў мінулым нумары мы надрукавалі сігнал "SOS!" пра тое, што ГА "Таварыства беларускай мовы" пазбавілася льготы пры аплаце арэнднай платы, то, як высветлілася, значна прыменшылі праблему. На дадзены момант ужо вядома, што ў спісе льготнікаў не засталося ніводнай беларускай культурна-асветніцкай арганізацыі.*

Як паведаміла "Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацый", згодна з новай пастановай урада льготных ставак арэнды памяшканняў пазбаўлены 256 некамерцыйных арганізацый Беларусі. Сярод арганізацый, што раней карысталіся льготамі, але не патрапілі ў новы спіс: Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны", Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Беларуская Асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА", Дабрачыннае грамадскае аб'яднанне "Кропля жыцця" (аб'ядноўвае донараў крыві), Грамадскае аб'яднанне "Дзецям Чарнобыля", Грамадскае аб'яднанне "Магілёўская яўрэйская супольнасць", Грамадская арганізацыя "Беларускі фонд SOS — Дзіцячая вёска", грамадскае аб'яднанне літоўцаў "Тэвінэ"і многія іншыя. Цяпер яны, не займаючыся ніякай камерцыйнай дзейнасцю, будуць вымушаны плаціць поўную арэндную плату за свае памяшканні.

Для каго ж засталіся льготы? Зацверджаны "ўрадам" пералік тых, хто "больш роўны за астатніх" прадугледжвае льготу для 195 грамадскіх аб'яднанняў, у тым ліку для некаторых партый, пра існаванне якіх многія нават не ведаюць — Камуністычнай, Сацыяльна-спартыўнай, Рэспубліканскай партыі труда і справядлівасці. Зразумела, што ў спісе льготнікаў засталося праўладнае грамадскае аб'яднанне "Белая Русь", а таксама шматлікія спартыўныя асацыяцыі і саюзы. Вось так улады вызначаюць свае прыярытэты.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ИНИЦИАТИВА

## Наркоманам могут запретить садиться за руль

*А еще в Беларуси хотят создать наркосуды. Если данная инициатива приживется, то у тех, кто употребляет наркотики, будет выбор: сесть в тюрьму или отправиться на лечение.*

"*Мы инициировали введение административной ответственности за употребление наркотиков в общественном месте,* — рассказал управлению информации и общественных связей МВД начальник управления по наркоконтролю и противодействию торговле людьми криминальной милиции МВД полковник **Николай Карпенков.** — *Также считаем, что наркоман не должен садиться за руль. Ежегодно только в столице выявляют сотни водителей, которые управляют авто в состоянии наркотического опьянения. Поэтому МВД планирует наладить тесное взаимодействие с Минздравом по обмену информацией о наркоманах, состоящих на учете в диспансерах. Это даст возможность проверять их на наличие водительского удостоверения*".

Николай Карпенков говорит, что подготовлены предложения и по созданию в Беларуси наркосудов.

"*Их суть в том, чтобы наркозависимый, совершивший незначительное преступление, связанное с незаконным оборотом запрещенных веществ, мог выбирать: сесть в тюрьму либо участвовать в спецпрограмме лечения и реабилитации по принципу полного отказа от наркотиков,* — поясняет полковник. — *А контроль за соблюдением правил будут осуществлять наркологи, милиционеры и представители социальных служб под руководством судьи. К слову, последний оценивает, соответствуют ли осужденные критериям программы, поощряет их или применяет меры взыскания, вплоть до исключения из курса лечения и направления в места лишения свободы. Надеюсь, такое новшество поспособствует тому, что наркоманы добровольно начнут становиться на медицинские учеты. Это в свою очередь снизит латентность наркомании. Кстати, подобная система судов нашла широкое применение в США, Австралии, Канаде, Норвегии, Швеции и ряде других государств. А по оценкам Управления ООН по наркотикам и преступности, такая система в пять раз экономически эффективнее, чем другие формы противодействия наркомании. При этом значительно снижается и рецидивная преступность.*

*Необходимо создать условия, при которых наркопотребитель не будет совершать преступлений, а получит мотивацию к полному освобождению от наркозависимости*".

### А ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...

*Впервые наркосуды появились в Америке.*

Сначала после принятия в 1914 году Акта Гаррисона наркоманы стали изгоями общества. Клиники для наркоманов были закрыты, им отказывали в лечении, содержали в тюрьмах или психбольницах. В 1963 году Джон Кеннеди созвал конференцию по проблемам наркомании, на которой были сказаны слова в поддержку принудительного лечения как альтернативы тюремному заключению. В 1966 году Конгресс одобрил Акт о реабилитации наркоманов, который позволил выводить наркоманов, обвиненных в совершении федеральных преступлений, из системы уголовного правосудия, направляя их на лечение. В лечебные программы допускались преступники, не совершившие насильственных преступлений, и осужденные на срок не более 10 лет. Кроме того, принудительному лечению подлежали наркоманы, не совершившие преступлений. Максимальный срок лечения был определен в 6 месяцев, затем следовал реабилитационный период сроком до 36 месяцев. Акт говорил также о создании и финансировании центров лечения наркомании.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

ЭКАНОМІКА

## Беларусы не купляюць айчынныя тэлевізары

*На ўнутраным рынку распрададзена толькі 6% тэлевізараў, зробленых у нашай краіне за сакавік. Тым не менш аб'ёмы вытворчасці растуць.*

Так, з вырабленых у сакавіку 60,1 тыс. тэлевізараў прададзена на ўнутраным рынку ўсяго 3,6 тыс. штук.

У той жа час беларускія вытворцы нарошчваюць выпуск сваёй прадукцыі ў разліку на знешнія рынкі. Рост вытворчасці тэлевізараў у параўнанні з першым кварталам мінулага года склаў 19,3%. Белстат пакуль прыводзіць даныя па экспарце толькі за першыя два месяцы 2013 года. За мяжу пастаўлена 40,6 тыс. тэлевізараў.

Улічваючы продаж на ўнутраным рынку, нераспраданай у студзені—лютым засталася чвэрць вырабленай прадукцыі, або 16,7 тыс. тэлевізараў, паведамляе *Onliner.by*.

Такім чынам, вытворцы айчынных тэлевізараў робяць стаўку на рост попыту на знешніх рынках і паступова губляюць свае пазіцыі на ўнутраным рынку. Наколькі запатрабаванай будзе прадукцыя беларускіх вытворцаў тэлевізараў за мяжой, пакажа час.

ЗА РУЛЁМ

## Якія дарогі сталі платнымі?

*Урад Беларусі вызначыў пералік дарог, на якіх з 1 ліпеня бягучага года будуць спаганяць плату за праезд транспартных сродкаў з дапамогай адпаведнай электроннай сістэмы.*

Платнымі стануць у агульнай складанасці 860 км дарог краіны. Гэта тычыцца ўсяго працягу аўтамагістралі Брэст-(Казловічы) — Мінск — мяжа Расіі (Рэдзькі), а таксама асобных участкаў аўтамабільных трас М-2 Мінск—Нацыянальны аэрапорт "Мінск", М-3 Мінск—Віцебск, М-4 Мінск—Магілёў, М-5/Е 271 Мінск—Гомель і М-6/Е 28 Мінск—Гродна — мяжа Польшчы (Брузгі).

Транспартнай інспекцыі Мінтрансу загадана кантраляваць выкананне карыстальнікамі платных аўтадарог устаноўленага заканадаўствам парадку спагнання збораў за праезд. На службовых асоб інспекцыі ўскладаюцца паўнамоцтвы па прыняцці рашэнняў пра блакіраванне колаў, затрыманні і эвакуацыі транспартных сродкаў на ахоўную стаянку ў выпадках, прадугледжаных заканадаўчымі актамі.

Міністэрства транспарту і камунікацый па ўзгадненні з Мінфінам абавязаны ў месячны тэрмін усталяваць парадак акруглення платы за праезд па платных аўтамабільных дарогах, у тым ліку ў павялічаным памеры, і закладнога кошту прылады электроннай аплаты.

Памер платы за праезд ужо ўсталяваны і вагаецца ў залежнасці ад дапушчальнай агульнай масы транспартнага сродку і колькасці восяў, складаючы ад 0,04 да 0,12 еўра за 1 км.

**Вера ВІР.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
7 МАЯ 2013 г.

БЕЗ ГАЛЬШТУКА

## Уладзімір Карагін сыходзіць у джаз

*І бярэ з сабой Уладзіміра Макея*



Джаз-клуб Яўгена Уладзімірава з 17-гадовай гісторыяй перайменаваны ў Джаз-клуб Яўгена Уладзімірава & Уладзіміра Карагіна.

— *Інтарэсы бізнесу застаюцца прыярытэтам маёй дзейнасці, а джаз — гэта якраз падкрэслівае сацыяльную адказнасць бізнесу, які таксама звяртае ўвагу і на стан культуры, спорту, адукацыі,* — распавёў Службе інфармацыі euro-belarus.info старшыня прэзідыума Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва, старшыня Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў **Уладзімір Карагін**.

На лагатыпе клуба з'явіцца эмблема Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва.

Увосень мінулага года ў Мінску прайшоў буйны джаз-фэст JazzinMinsk. Цяпер яго вырашылі зрабіць пастаянным і давесці да ўзроўню вядомых сусветных фестываляў. Па словах Уладзіміра Карагіна, першы фестываль сур'ёзна падтрымаў тагачасны міністр культуры Беларусі **Павел Латушка**. У гэтым — кіраўнік МЗС **Уладзімір Макей**.

— *У пачатку гэтага года мы падзяліліся сваімі ідэямі з міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем і яны выклікалі ў яго поўную згоду,* — распавядае прадпрымальнік. — *І сёння шэраг нашых пасольстваў аказваюць усялякую падтрымку ў больш хуткім атрыманні віз сусветным зоркам джаза ва ўсіх неабходных працэдурах. І да нас сапраўды прыедуць музыкі надзвычай запатрабаваныя і занятыя ў шматлікіх праектах, але ніякіх нязручнасцяў хоць бы з афармленнем дакументаў яны сапраўды не выяўляюць.*

Уладзімір Карагін праводзіць некалькі нечаканую паралель паміж джазам і эканомікай:

— Джаз, лічу, гэта сур'ёзны паказчык інтэграванасці краіны, яе ўваходжання ў сусветную культурную прастору, успрымання тых каштоўнасцяў, якія напрацаваны за 150 гадоў, дэманстрацыя адкрытасці ў свеце. Джаз садзейнічае прафесійнаму росту творчай моладзі. Ужо можна казаць аб тым, што Беларусь мае добры джазавы імідж. І ў нас расце цэлая плеяда маладых таленавітых джазмэнаў, прадзюсараў. Як ні дзіўна, але, лічу, такія рэчы, акрамя ўсяго іншага, даюць добрую матывацыю, імпульс нашай эканоміцы, робяць нашу краіну больш прывабнай для замежных партнёраў. Усё гэта — адзінае цэлае.

КАШАЛЁК

## «Заробку беларускіх футбалістаў хапае толькі на харчаванне»

*Паўабаронца зборнай Беларусі* ***Антон Пуціла*** *распавёў аб заробках у родным чэмпіянаце.*

*Футбаліст даў інтэрв'ю афіцыйнаму сайту ніжагародскага клуба.*



**— Ці дазваляюць заробкі маладых футбалістаў у Беларусі жыць на шырокую нагу?**

— Не, зарплаты чыста сімвалічныя. Хапае толькі на харчаванне. Мы стараліся хутчэй развівацца, каб пачаць зарабляць больш.

**— Гэта значыць, мэта ў беларускіх гульцоў — пакінуць родны чэмпіянат?**

— Вядома, многія хочуць з'ехаць. Расійскі чэмпіянат мацней па ўзроўні, ніхто не хавае, што тут можна добра зарабіць. Усе лепшыя беларускія гульцы імкнуцца замацавацца ў Расіі.

**— Што б ты зрабіў, калі б стаў прэзідэнтам?**

— Пачаў бы развіваць футбол — будаваць стадыёны. У Расіі ёсць такі шанц — чэмпіянат свету. Інфраструктура абавязкова палепшыцца. Гэта будзе вялікі крок наперад, прычым не толькі для прафесійных каманд, але і для дзіцячых школ. Паверце, гэта прынясе свой плён.

ГАСТРОЛІ

## Павел Харланчук з'язджае ў Маскву

*А потым у Рыгу. Праўда, не назаўсёды.*

Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Офіс" прадставіць Беларусь на Міжнародным тэатральным фестывалі імя А.П.Чэхава ў Маскве.

Паказ "Офіса" адбудзецца 24 мая на сцэне Маскоўскага драматычнага тэатра імя А.Пушкіна. Пастаноўка таксама ўвайшла ў рэгіянальную праграму фестывалю і будзе паказана ў Рызе 6 ліпеня.

Прэм'ера "Офіса" па п'есе сучаснага нямецкага драматурга Інгрыд Лаўзунд у пастаноўцы рэжысёра **Кацярыны Аверкавай** адбылася тры гады таму. Акцёры **Міхаіл Зуй, Сяргей Рудэня, Вольга Скварцова, Павел Харланчук-Южакоў і Вікторыя Чаўлытка** распавядаюць гледачам гісторыю з жыцця пяці офісных супрацоўнікаў. Жанр спектакля, вызначаны рэжысёрам як *"бесхрыбетнасць у адной дзеі"*, лепш за ўсё характарызуе сцэнічнае дзеянне, у якім чалавек робіцца вінцікам карпаратыўнай сістэмы, губляючы сваю індывідуальнасць і цвёрдасць пастаў.

На Чэхаўскім фестывалі гледачы ўбачаць яшчэ адзін спектакль Купалаўскага тэатра — "Вяселле" паводле А.Чэхава ў пастаноўцы Уладзіміра Панкова. Яго пакажуць 29 і 30 мая на сцэне Тэатра імя Массавета.

### Для даведкі

*Міжнародны тэатральны фестываль імя А.П.Чэхава праходзіць раз на два гады ў Маскве з 1992 года, заснаваны Міжнароднай канфедэрацыяй тэатральных саюзаў. Праграма фестывалю складаецца з трох блокаў: сусветная серыя (замежныя спектаклі вядомых рэжысёраў), маскоўская серыя, рэгіянальная серыя (прасоўванне некаторых спектакляў фестывальнай праграмы ў гарадах Расіі і Латвіі).*

**Аліна ВЕТРАВА.**

ЗА ЧАШЕЧКОЙ КОФЕ С МАРИНОЙ КОКТЫШ



*Ольга ОСИПЕНКО:*

# «Мода — только до 46-го размера»

*Когда пять лет назад модельер Ольга Осипенко открыла свой первый магазин, мало кто верил в успех этого дела. Белорусские кутюрье с узнаваемыми именами заявляли, что Минск просто не готов к появлению дизайнерских магазинов. Что покупатели лучше переплатят, но купят вещь с известным лейблом, путь даже и из прошлой коллекции, чем отдадут деньги за наряд от белорусского производителя. И что это очень непросто — самой создавать и продавать одежду.*

*Но буквально через пару лет Осипенко открыла еще один магазин. И оба бутика сегодня окупаются.*

*При этом платья с лейблом "Olga Osipenko" продаются во многих белорусских магазинах. И не только, кстати, белорусских.*

*В чем секрет такого успеха?*

## Эксклюзив нарасхват

**— Ольга, вы довольны тем, как продается ваша одежда?**

— Продажи идут, но, если честно, я занимаюсь производством и обращаю внимание на итог работы. Мне интересно, как отработан сезон, как распродалась коллекция: какие модели были более востребованы, а какие оказались непонятыми. Исходя из этого, продумываю концепцию на следующий сезон.

**— Наверное, чаще всего невостребованными остаются самые смелые модели?**

— На продажи влияет только человеческий фактор — нравится или нет. Бывает, работаю над моделью несколько дней, продумываю все до мелочей, тщательно подбираю ткань, а ее поймут только в следующем сезоне. А бывает, нарисуешь все за полчаса — и вмиг разлетается!

**— Вы сами часто наведываетесь в свои магазины?**

— Реже, чем надо было бы. Дело в том, что мы стараемся обновлять коллекцию примерно раз в неделю, раз в две недели — совершенно точно. У меня немало постоянных клиентов, которые практически требуют новые модели! И если они приходят в магазин и не видят обновок, то, бывает, доходит до истерики. Поэтому я много времени провожу на производстве.

**— Сколько вы выпускаете моделей в месяц?**

— Около 10. Причем все модели — эксклюзивные.

**— Это немаленькая нагрузка…**

— Да, иногда сама поражаюсь, как до сих пор на все хватает сил.

**— Каким максимальным тиражом обычно выпускаете платья? Я это к тому, что в магазинах частенько говорят: осталось только несколько размеров — и все, больше нигде не найдете…**

— Да, так и есть. Я не крупный производственник, мои коллекции — авторские и выпускаются очень ограниченным тиражом. Некоторые модели выходят в количестве трех экземпляров, и потом больше не повторяются. Поэтому если встретили свой размер, то хватайте, долго не думайте (*смеется*)!

**— На некоторых ваших этикетках написано: *"Экспериментальный выпуск"*…**

— Это пробная партия. Мы смотрим, как она разойдется, затем можем что-то повторить, но это не всегда выходит. И по ткани случаются ограничения — не всегда получается заказать дополнительную партию.

**— Белорусские ткани покупаете?**

— Нет. Например, летняя коллекция на 70 процентов состоит из итальянских тканей.

Недавно в Москве, кстати, зашла в бутик одного известного дизайнера, его очень любят представители российского шоу-бизнеса. Так вот там фактура ткани очень похожа на нашу, но платье стоит — под 1000 долларов. Как говорится, почувствуйте разницу…

**— В Беларуси тоже есть люди, которые готовы отдавать такие деньги за наряды.**

— Да, в Милане за "Роберто Кавалли".

**— А вы сами часто бываете на шоппинге в модных европейских столицах?**

— В последнее время у меня очень много разъездов. Неделю назад была в Варшаве по делам, и, конечно, прогулялась по магазинам. Но у меня шоппинг только аксессуарный: обувь, бижутерия. Одежду не покупаю. Но всегда обращаю внимание, что висит на вешалках. На люксовых коллекциях американцев, итальянцев и французов учусь всяким фишкам. Причем меня интересуют не внешние силуэты, а то, что находится внутри: обработка, швы и так далее. Вот даже сейчас показывала коллекцию в Москве, и они остались очень довольны качеством ткани и обработки. Заметили, что у них такой уровень встречается редко. Мне, конечно, было приятно…

## 49 тысяч за платье

**— В последнее время не раз слышала: мол, цены на одежду от Осипенко не маленькие. Платье из последней коллекции — почти 100 долларов. За эти же деньги можно купить два наряда в популярных "Заре" или "Линдексе". Что скажете в ответ?**

— Если мы говорим о том, что представлено в наших так называемых бутиках, то это коллекции как минимум трехлетней давности, свежего там ничего нет. А в "Заре" модели из новой коллекции продаются дороже, чем мои. Платье от "Zara" в среднем стоит от 120 евро, а 100 долларов за платье *"Fashion-Design by Olga Osipenko"* — это примерно 70 евро, поэтому тут даже спорить не о чем.

Если говорить о всевозможных скидках, то недавно мы открыли свой сток-павильон в торговом центре "Купаловский". Сток — это когда производители освобождают свои склады, чтобы выпускать новую продукцию. Так вот там мое платье можно купить от 49 до 200 тысяч белорусских рублей. 49 тысяч — это смешные деньги, даже в магазин за продуктами не сходишь!

И я вам скажу, что в Москве стоимость моих изделий в четыре раза (!) выше, чем в Минске. И там мои изделия очень любят даже по этим ценам.

**— Вы собираетесь открыть бутик в столице России?**

— Сегодня уже в двух магазинах в Москве представлена коллекция от Ольги Осипенко. Об открытии бутика говорить пока рано.



## Товароведы не листают глянец?

**— Ваши коллекции давно продаются, в том числе и в ГУМе—ЦУМе. Бывает, что в этих магазинах ваш взгляд останавливается на какой-то интересной модели?**

— С ГУМом я работаю с большим удовольствием, там приветствуют новые коллекции, доверяют моему бренду. А вот с ЦУМом отношения как-то не сложились. У них, как говорится, совок рулит.

Я убеждена, что закупщиками должны быть молодые люди, которые имеют соответствующее образование, разбираются в тенденциях, которым не надо объяснять, почему дизайнер здесь поставил эту молнию, а здесь сделал такой разрез. Потому что это тренд! Закупщики должны понимать, что этот продукт модный и что этот узел — тенденция сезона!

**— Я даже и не думала, что товароведы могут придираться к деталям…**

— Некоторые высказывают свое субъективное мнение. Я тоже не сама придумываю тенденции на сезон. Выписываю дорогостоящие профессиональные журналы, где четко прописаны цвета, силуэты, какие-то элементы декора. Это как аксиома на сезон. И если товаровед не хочет узнать об этих тенденциях, то он должен доверять дизайнеру. Честно говоря, я просто устала доказывать ЦУМу, что это модно…

**— Мне кажется, если бы в некоторых наших больших магазинах ориентировались на модные тенденции, то половину ассортимента, который там сегодня висит на вешалках, нужно было бы просто выкинуть.**

— Там есть хороший продукт, но соглашусь, что его недостаточно.

## Размер имеет значение

**— На кого прежде всего ориентирована одежда, которую вы создаете?**

— Это работающая женщина, возраст — от 25 до 55. Все, конечно, зависит от фигуры. Помню, как-то раз в магазин зашла дама лет 70, бывшая стюардесса с отличной фигурой. И тоже купила у нас платье.

Теми, кто выбирает мой бренд, движут безупречность и свобода. У каждой моей покупательницы есть личное видение того, что ей нужно. Но при этом она предпочитает модели, не перегруженные деталями, и выбирает стиль, отличающийся простотой.

**— У вас практически не представлена линейка серьезных размеров — максимум до 50-го.**

— В сезоне осень-зима мы выпустили красивые костюмы из итальянской ткани. Размеры — 50—62. Наши барышни крупных форм, глядя на модели, которые просто не могут быть 56-го размера, говорили: "Ой, а хочу вот такое, как в 42-м размере…"

Вообще мода — она по 46-й размер. А у нас есть даже 50-й! Для сравнения: когда разговаривала с баером в Москве, отметила, что в моих коллекциях размеры — вплоть до 50-го. Он отвечает: а нам 48—50 вообще не надо. То есть все, что выше 46-го размера, — это скрывание силуэта и фигуры. Но, несмотря на этот факт, у нас зимой была коллекция для крупных дам. И, честно говоря, я не очень довольна продажами. Хотя там и жакеты шикарно сидят, и брюки — на любой тип фигуры.

Это была наша вторая попытка и, наверное, последняя. Дальше — только индивидуальные заказы.

**— Но кто-то же создает моду для тех, кто крупнее 48-го размера?**

— Да, есть дизайнеры, которые специализируются на моде от 50-го размера и выше.

## Чем пахнет лето

**— Сформулируйте, пожалуйста, основные тенденции моды на лето. У вас в коллекции, например, немало кружев…**

— Минимализм и простота — основные правила в моде сезона весна-лето 2013. Актуальны короткие платья и шорты в деловом стиле. Элегантное сочетание цветов, подходящих как для офиса, так и для вечеринок. В коллекциях используются материалы, прошедшие испытание временем: шелка, шифоны, кружева, есть ручная работа.

**— Кружево ведь и в двух прошлых сезонах было одним из главных трендов…**

— Сейчас в моде не мелкое, а объемное кружево. Кстати, кружево — это классика вечерней моды.

**— Назовите пять вещей, без которых, по-вашему, лето будет не модным?**

— Платье. Классический костюм. Брюки по щиколотку. Пышная юбка. Босоножки на деревянной платформе. Цвета — яркие, солнечные, радующие глаз.

**— Одно время вы пытались делать какие-то аксессуары и даже, если не ошибаюсь, обувь…**

— Обувь теперь не шью, хотя когда-то делала. Но это абсолютно отдельная ниша…

Что касается аксессуаров, то создаю их в подарок. И дарю на показах, выставках и в магазинах как комплимент за покупку.



## 20 лет до мечты

**— Свою коллекцию "Весна-лето-2013" вы презентовали в казино. Почему именно там?**

— Мне захотелось поздравить всех любимых покупательниц с 8 Марта. Была расслабленная атмосфера, подходящий интерьер, все гости угощались шампанским и были довольны. Некоторые модели купили сразу после показа.

**— В отличие от многих белорусских дизайнеров, вы не принимаете участия в Белорусской неделе моды. Почему?**

— Такие показы — это прежде всего реклама. Они на большой процент увеличивают себестоимость продукции. Потому что чем меньше выпуск, тем больше его стоимость. Мне не хотелось бы пока увеличивать цену на платья.

**— Четыре года назад в интервью нашей газете вы заметили: *"К сожалению, белорусскую моду мало кто воспринимает как сенсацию…"* За это время что-то изменилось?**

— Состоялись две Недели моды. Появились новые имена. Это уже кое-что.

**— Мне кажется, в последнее время в Беларуси проснулся интерес к дизайнерской одежде…**

— Хотя все равно наших дизайнеров больше любят за пределами страны. И с кем ни общаюсь — почти все ориентированы на Россию, Украину…

**— В интервью вы не раз говорили, что мечтаете о своем собственном Доме моды…**

— Да, эта мечта не меняется. Что сейчас мешает создать? В моем понимании Дом моды — это отдельное здание, несколько этажей. Это цеха, бутик, шоу-рум, может быть, даже дизайнерское кафе. Это целая концепция! Но мне еще не 45 лет, как известным мировым дизайнерам, думаю, у меня на реализацию этой мечты в запасе еще лет 20 имеется, все еще впереди (*смеется*)…

## Замужем за брендом

**— К вам часто обращаются с просьбами сформировать или откорректировать образ?**

— Часто. Это связано с тем, что у меня дизайнерское ателье. Вначале обсуждаем модель, затем вместе едем в магазин за тканью. В процессе примерок и общения клиент получает полную консультацию, в какой цветовой гамме лучше одеваться, что с чем носить. И я с удовольствием даю такие советы. Мне самой приятно, когда мои заказчики хорошо выглядят.

**— Обычно такие консультации совсем не бесплатны…**

— Все входит в стоимость изделия. Кстати, пошить изделие на заказ стоит процентов на 40 дороже готового платья (без учета стоимости ткани). Я считаю, это немного, учитывая, сколько времени я провожу с клиентом. В Европе — да, такой сервис будет стоить гораздо дороже. А у нас, я считаю, доступно.

**— Что вас раздражает в последних тенденциях моды?**

— Я люблю моду во всех ее проявлениях. Это моя страсть. Я всегда с нетерпением жду новые тенденции, мне интересно, как все это воплотить в жизнь. Я так люблю моду, что иной раз кажется, что она меня полностью поглотила…

**— Самая дорогая вещь в вашем гардеробе?**

— У меня все бесценное, так как весь гардероб от Ольги Осипенко. Я, конечно, не про финансовую сторону (*улыбается*).

Люблю обувь "Лубутен" — не потому, что это модный бренд, который носят голливудские звезды. Просто мне колодка идеально подходит. Покупаю в Европе — там дешевле.

**— У вас бывает такая ситуация, когда открываешь шкаф и понимаешь, что надеть, в общем-то, и нечего?**

— Нет. Гардероб на день я продумываю с утра — в зависимости от того, с каким настроением проснусь. У меня нет такого, что ношу только какие-то определенные силуэты. Думаю только о том, в каком стиле хочу выглядеть.

**— Три года назад на вопрос по поводу личной жизни вы ответили: *"Замужем за работой"*.**

— На сегодняшний день ничего не изменилось. Но так часто бывает, когда человек увлечен своим делом. У меня так много работы, что просто нет времени отвлекаться на что-то еще. И пока мне это в удовольствие. Я очень люблю то, чем занимаюсь…

НЕЗАШОРАНЫМ ВОКАМ



# Не хакеем адзіным...

Чэмпіянат свету па хакеі сёння не належыць да тых падзей, якія маглі б усхваляваць вялікія масы аматараў спорту. Гэта зусім не тое, што было ў шасцідзясятых-сямідзясятых гадах мінулага стагоддзя. Чарговы такі турнір, што пачаўся 4 мая ў шведскай і фінскай сталіцах, асвятляецца збольшага толькі ў спецыялізаваных спартыўных СМІ. І не дзіва: у складах каманд, якія паводле традыцыі называюцца нацыянальнымі зборнымі, вы не ўбачыце галоўных зорак сусветнага хакея, такіх як Сідні Кросбі, Ярамір Ягр, Пэтрык Кейн, Хенрык Лундквіст, Яўген Малкін або Аляксандр Авечкін... Але Беларускае тэлебачанне, здаецца, традыцыйна разглядае такія чэмпіянаты як "шоу ў гонар Хакеіста №1" і таму дысцыплінавана паказвае ў жывым эфіры ўсе, без вынятку, матчы зборнай Беларусі, і не толькі. Гэтая акалічнасць звярнула на сябе ўвагу грамадска-асветніцкай арганізацыі "Беларуская нацыянальная памяць", касцяк якой складаюць беларусы, якія вучацца або працуюць у Варшаве. Я ўжо досыць даўно ведаю кіраўніка гэтай арганізацыі Анатоля Міхнаўца. Ён належыць да асоб, якія сёння ствараюць духоўнае апірышча неафіцыёзнай Беларусі. На рахунку БНП дзясяткі цікавых акцый і іншых імпрэз. Тут і лекцыі вядомых беларускіх гісторыкаў, творцаў і палітыкаў, што традыцыйна чытаюцца не абы-дзе, а ў варшаўскім Палацы культуры. Тут і веласіпедныя прабегі, падчас якіх беларуская моладзь далучаецца да ўшанавання гістарычных і культурніцкіх падзей, што мелі месца ў Польшчы. Літве, Германіі... Тут і мемарыяльныя мерапрыемствы ў гонар выдатных беларусаў, што адышлі ў лепшы свет па-за межамі сённяшняй Рэспублікі Беларусь.

Гэтым разам Анатоль Міхнавец і яго калегі прыехалі ў Стакгольм — "пахварэць" за беларускіх хакеістаў, прычым зрабіць гэта пад гістарычнымі бел-чырвона-белымі сцягамі. Шматметровае палотнішча і з дзясятак сцягоў стандартнага фармату былі добра відаць усім, хто па канале БТ-2 глядзеў трансляцыю дэбютнага матча беларускай зборнай з камандай Чэхіі. Гэтая акалічнасць выклікала надзвычай нервовую рэакцыю ў Яўгена Ворсіна, спартыўнага чыноўніка, "блізкага да цела" Галоўнага Кіраўніка Краіны. У інтэрв'ю, апублікаваным на сайце Goals.by, ён назваў тых, хто трымаў на стакгольмскай арэне бел-чырвона-белыя сцягі, "неадэкватнымі людзьмі", "нейкімі цёмнаскурымі ці арабамі". Пакінем на яго сумленні пасажы, ад якіх папахвае расізмам (як высветлілася, побач з актывістамі БНП на трыбунах стадыёна сядзелі мясцовыя заўзятары з "няправільным колерам" скуры). Галоўнае, аднак, у тым, што армада беларускіх хакейных функцыянераў хуценька як бы забылася, дзеля чаго праводзіцца хакейны чэмпіянат, і свае няўдачы ў стымуляванні прыезду ў беларускую зборную яе зорак (з розных прычын у камандзе адмовіліся гуляць Андрэй Мезін, Віталь Коваль, Аляксей Калюжны, браты Касціцыны) паспрабавалі кампенсаваць дэманстрацыяй імпэту ў змаганні з бел-чырвона-белымі сцягамі на стакгольмскай "Глобен-арэне". Відавочна, што менавіта паводле іх даносу на другі матч Беларусь — Славенія ахова арэны не прапусціла Анатоля Міхнаўца з вялікім сцягам, спаслаўшыся на нікому невядомыя "правілы бяспекі". Натуральна, што скандынаўская прэса ацаніла "прагінанне" беларускіх спортчыноўнікаў і арганізатараў чэмпіянату іначай. Так, адна з самых уплывовых шведскіх газет "Дагенс нюхетэр" напісала наўпрост: "Былы афіцыйны сцяг Беларусі забаронены дыктатарам Аляксандрам Лукашэнкам. І арганізатарамі чэмпіянату свету па хакеі... Арганізатары ЧС не дазвалялі выкарыстоўваць вялікі нацыянальны сцяг, загадвалі яго прыбраць. Яшчэ раней цэлы вал крытыкі быў выкліканы контраверсійным рашэннем (міжнароднай хакейнай федэрацыі) правесці наступны чэмпіянат свету якраз у Беларусі".



**Ініцыятар і кіраўнік грамадска-асветніцкай арганізацыі "Нацыянальная памяць" у Варшаве Анатоль Міхнавец.**

Аднак не ўсё атрымліваецца нават у "дыктатара". На матчы беларускай і славенскай каманд над стакгольмскім хакейным стадыёнам зноў луналі тыя сцягі, якія нікому і ніколі ўжо не ўдасца ні замаўчаць, ні забараніць. Пройдзе час, і ніхто не ўзгадае прозвішчаў беларускіх дзеячаў ад спорту разліву 2013 года, а чалавечая і грамадзянская пазіцыя Анатоля Міхнаўца і яго калег будзе добрым прыкладам новым пакаленням беларусаў.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**




***Фота Арнда Вігмана / Рэйтэр.*** **Служба аховы чэмпіянату прымушае згарнуць сцяг.**

КОНКУРС

## *Дар'я Домрачава падлічыць балы на «Еўрабачанні»*

*Знакамітая біятланістка Дар'я Домрачава агучыць у фінале "Еўрабачання-2013" балы ад Беларусі.*

Аб гэтым паведамілі ў Белтэлерадыёкампаніі.

Нагадаем, што конкурс "Еўрабачанне" адбудзецца з 14 па 18 мая ў шведскім Мальмё.



**Алёна Ланская.**

Алёна Ланская выканае кампазіцыю "Solayoh" бельгійскага кампазітара Марка Паэлінка і брытанскага паэта Марціна Кінга пад 11-м нумарам у першым паўфінале 14 мая.

Другі паўфінал пройдзе 16 мая. 18 мая адбудзецца фінал, на якім і вызначыцца пераможца.

ВІНШУЕМ!

## *Алена Чычкан — лепшая!*

*Беларуская юніёрка выйграла золата чэмпіянату свету ў цяжкай атлетыцы.*



Спаборніцтвы стартавалі ў сталіцы Перу Ліме. "Золата" юніёрскага чэмпіянату свету ў вагавай катэгорыі да 53 кілаграмаў выйграла прадстаўніца зборнай Беларусі Алена Чычкан. Яна набрала ў суме 199 кг: рывок — 87 кг, штуршок — 112 кг. Адзін кілаграм беларусцы прайграла прадстаўніца Кітая.



# Человек-легенда

*Александр Яковлевич Корсак родился в Минске.*

Как и многие его сверстники, большую часть времени проводил на улице. Спортивных сооружений в городе почти не было.

Зимой катались на санках, к валенкам привязывали проволоку и бегали по льду. Летом пропадали на Свислочи. Здесь Саша, глядя на более взрослых ребят, научился плавать. Играли в футбол (из-за отсутствия мяча гоняли консервную банку), в лапту, городки.

В 1936 году впервые в Беларуси в Минске открылся плавательный бассейн ОДО. Весть о том, что объявлен набор в группы плавания, мгновенно облетела весь город, и сотни мальчишек и девчонок побежали в бассейн. Но отбор в группы был жесткий, отбирали лучших.

И 14-летнему Саше повезло: он попал к Леониду Момату. А Момат, в то время чемпион СССР в плавании с гранатой, плодотворно работал с детьми.

В Минск были приглашены известные тренеры Н.Бражников (после войны тренер ЦСКА и сборной СССР), Н.Гурьев (призер чемпионатов СССР, после войны заведующий кафедрой плавания БИФК, ЗМС).

И уже через 2—3 года результаты воспитанников не заставили себя ждать: первый чемпион СССР Зинаида Шелешнева в плавании брассом, Георгий Семенов (ныряние на 50 м под водой), среди юношей Игорь Дурейко (после войны призер первенства СССР, известный спортивный врач), Николай Крюков (плавание на спине, после войны рекордсмен и чемпион СССР, ЗМС).

Появились успехи и у Саши Корсака. Он был включен в юношескую сборную команду БССР и поехал на чемпионат СССР 1939 года в Тбилиси. В комбинированной эстафете (3х1000 м) в составе Николая Крюкова (спина), Арона Метлицкого (брасс) и Александра Корсака (в/с) команда БССР была награждена золотыми жетонами.

Победа белорусов явилась большой неожиданностью, так как команды Москвы и Ленинграда считались лидерами и минчан никто как конкурентов не воспринимал.

Вплоть до Великой Отечественной войны команда БССР на чемпионатах СССР среди взрослых и юношей всегда занимала призовые места.

Хоть и прошел 71 год, а А.Корсак, как сейчас, помнит июль 1941 года. В течение двух лет комсомольцы и молодежь города, при помощи лопат, тачек и носилок расширяли русло реки Свислочь в районе Сторожевки. Были оборудованы пляжи, лодочная станция, открытый плавательный бассейн.

22 июня 1941 года в 9.00 должен был состояться большой спортивный праздник. Тысячи минчан собрались на него, и здесь было объявлено, что началась война.



А.Корсак добровольцем записался на фронт, попал в пехоту. Воевал под Москвой, Воронежем. В 1942 году попал в Сталинград, зимой 1943 года получил тяжелое ранение. Долгое время провел в госпиталях, получил инвалидность и был комиссован. За боевые заслуги награжден орденом Отечественной войны II степени, медалями "За боевые заслуги" и "Оборону Сталинграда".

В 1946 году он начал работать на кафедре плавания БГОИФК преподавателем, затем стал старшим преподавателем.

За 30 лет работы в институте он подготовил специалистов, многие из которых и сейчас успешно работают в области физической культуры и спорта.

А.Я.Корсак успешно работал тренером по плаванию. Многие из его воспитанников были чемпионами БССР, а м/с Евгений Емельянов стал чемпионом молодежного первенства СССР в 1957 году в эстафетном плавании, чемпионом БССР в плавании баттерфляем.

Александр Корсак ведет активный образ жизни и даже, несмотря на свои 90 лет, 2—3 раза в неделю проплывает "свои" 2—3 километра. Он рекордсмен и многократный чемпион Беларуси и России по плаванию среди ветеранов.

Вот уже 20 лет ежегодно в сентябре в Судаке (Крым) проводится чемпионат ветеранов России, и в течение 9 лет Корсак становился чемпионом на дистанции 5 километров в своей возрастной группе. Заплывы проходят в открытом море. Но самый большой успех к ветерану спорта пришел в 2001 году на чемпионате Европы (г.Мюнхен). А.Корсак в заплыве на 5 км был третьим, пропустив вперед англичанина и француза, которые были на четыре года его моложе. Заплыв проходил в плохих погодных условиях: моросил дождь, температура в канале, где проходили соревнования, была 17 градусов.

Александра Яковлевича ежегодно приглашают участвовать в международных соревнованиях среди ветеранов, но, к сожалению, из-за финансовых трудностей (участие за свой счет) он отказывается.

Не так давно легенде белорусского плавания исполнился 91 год. Все его достижения можно смело вносить в Книгу рекордов Гиннесса...

**Виктор Иванович КОЛЕННИКОВ.**

ВІНШУЕМ!

## Алег ГРУШЭЦКІ

*8 мая адзначае 39 гадоў*



Беларускі грамадскі дзеяч, публіцыст, літаратар. Адраджэнец скаўтынгу на Беларусі. Адзін з заснавальнікаў Аб'яднання беларускіх скаўтаў.

У 1991 годзе прадстаўляў Беларусь на 17-м Сусветным скаўцкім злёце ў Паўднёвай Карэі. Ён быў першым і на той час адзіным беларускім скаўтам.

У юнацтве як аматар займаўся маляваннем, вучыўся ў беларускага скульптара Геніка Лойкі. Сёння Алег Грушэцкі вяртаецца ў творчасць — піша апавяданні і аповесці ў жанры трылера, містыкі, а таксама казкі-фэнтэзі і вершы.



## Віталь КУРАШЫК

*8 мая спаўніцца 74 гады*

Прайшоў шлях ад рабочага да пасла. Скончыў у Харкаве Украінскі завочны політэхнічны інстытут па спецыяльнасці інжынер-механік.

11 мая 1993 года прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Рэспублікі Беларусь ва Украіне.

## Уладзіслаў МІСЕВІЧ

*8 мая святкуе 68 гадоў*



Музыкант, чыё імя асацыіруецца з "Песнярамі".

"Вучыўся ў музычнай школе (клас фартэпіяна). Скончыў Мінскі інстытут культуры.

Працаваў у аркестры арэнбургскага Сувораўскага вучылішча; аркестры Ваеннага вышэйшага лётнага вучылішча; асобным Узорна-паказальным аркестры Беларускай ваеннай акругі. Пасля тэрміновай службы ў арміі і заканчэння 4-х курсаў Мінскага музычнага вучылішча, пазнаёміўся з Уладзімірам Мулявіным (1967 г.).

З 1967-га пачынае працаваць у Белдзяржфілармоніі, у ансамблі пад кіраўніцтвам Ізмаіла Капланава. У 1968-м — у складзе ансамбля "Лявоны", кіраўніком якога абраны У.Мулявін. У 1969 годзе ансамбль "Лявоны" змяняе назву на "Песняры", у якім Місевіч працуе аж да 1992 года.

З 1998 года — у ансамблі "Беларускія песняры".

## Сяргей ПАНІЗНІК

*10 мая будзе 71 год*



Беларускі паэт, празаік, публіцыст. Ваенны журналіст, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Друкуецца з 1959 года. Выдаў зборнікі паэзіі "Кастры Купалля", "Палявая пошта", "Крона надзеі", "Слова на дабрыдзень" і іншыя.

Аўтар кнігі публіцыстыкі "Пасля вогненных вёсак...", дакументальнай аповесці "Браніслава", "Асвейская трагедыя" пра Саласпілскі лагер смерці.

Піша для дзяцей: зборнікі вершаў "Адкуль вясёлка п'е ваду", "Жыцень", "Мы — грамацеі", "Золкая зёлка".

РЕДКОСТЬ

# Драгоценная золушка

*Трудно себе представить отечественный пейзаж без березы — одного из самых любимых в народе деревьев, придающих нашему лесу чарующую красоту и прелесть.*

Но есть среди белолицых красавиц одна золушка. Она не слишком трогает наш взор — кривая, неказистая, малорослая, с более темной берестой и с несуразными желваками, вздувшимися в разных местах ствола. Кто-то может даже назвать ее уродом среди стройных белоствольных подруг. У нее и само название какое-то загадочно-странное: ***карельская береза***. Сразу же наводящее на вопрос: почему, собственно, карельская, если растет в наших краях?

Ответ на него известен — впервые такая береза обнаружена в Карелии и считается ее зеленым символом, хотя самих деревьев там совсем немного. По оценке местных ученых, не более трех тысяч экземпляров на всей площади леса. Более солидные ее запасы сосредоточены как раз в Беларуси. Ботаниками пока учтено около 100.000 стволов "карелки". Но цифра не окончательная. Ученые полагают, что в действительности ее раза в три больше на нашей территории. Все дело в том, что не так просто золушку обнаружить (растет в основном в одиночку). И тем более — правильно определить.

И у нас, и в других странах карельская береза находится на особом учете как ботаническая редкость, имеющая к тому же большую хозяйственную ценность. Рубка ее запрещена.

Древесина этого непривлекательного на вид лесного создания не имеет себе равных. Поперечная плоскость ее вызывает величайшее изумление: мрамор да и только! Правда, не каменный, а деревянный. На поверхности сделанного среза видны золотисто-белые полоски с перламутровым блеском, а также всевозможные крючочки, черточки, штрихи, дугообразные линии, причудливые завитки и прочее. Чаще всего коричнево-бурых расцветок. Вот из-за этой красивой узорчатой текстуры и ценится жемчужина карельских лесов.



Летят столетия, а стоимость карельской березы только растет. Золотой материал! Для краснодеревщиков такая древесина — настоящий клад. Она хорошо обрабатывается, а о красоте изготовленных предметов и говорить нечего. Беларусь, кстати, когда-то славилась подобными художественными изделиями. Они попадали даже на Всесоюзную выставку в Москве. Теперь их мало или даже вовсе нет. Во всяком случае в государственных магазинах их что-то не видно. А вот частники почин подхватили. Однажды мне посоветовали заглянуть на художественный рынок, который тогда располагался рядом с Октябрьской площадью в Минске. Я был удивлен обилием представленных там товаров. Целый древесный мир из березового мрамора. Как он великолепно смотрелся на фоне таких же поделок из искусственных материалов!

Самые злостные вредители карельской березы — браконьеры. Они-то и заставили меня взяться за перо. В Березинском заповеднике (Зареченское лесничество) уничтожено сразу 50 экземпляров этих редких деревьев. Злоумышленники пока не найдены. А из Толочинского УВД в Институт экспериментальной ботаники НАН прислали 19 образцов погубленной кем-то березы. Для идентификации, как было сказано в сопроводительном документе, уточнения породистости. Специалисты подтвердили: древесина узорчатая. Хотя и не самая лучшая по текстуре. Опять, значит, где-то незаконная рубка?

И у кого только рука поднимается на самое святое в лесу! Запасы карельской березы, по торгово-промышленным меркам, и без того скромны. Их следует наращивать. Не стоит обольщаться теперешними цифрами. Что значит 100.000 деревьев для целой страны? Сущий пустяк! При желании можно вывезти за неделю на десятке грузовиков. Но никто этого делать не станет. Заготовки карельской березы вообще под запретом.

Проведенные в нашем институте исследования показали, что жизненные позиции лесной знаменитости весьма шатки. Она плохо размножается, не терпит жесткой конкуренции и основательно угнетается быстрорастущими породами. Это грозит естественным усыханием ряда ее интереснейших форм. Прогноз настораживающий, а тут еще и лихие люди помогают уничтожить. Ясно, что ни к чему хорошему это не приведет.

Ученые делают все возможное в лесовосстановлении ценной породы: проведена инвентаризация насаждений и даны рекомендации по оптимальному уходу за ними, ведутся селекционные изыскания. Под патронажем Института леса НАН создаются искусственные питомники и плантации по выращиванию саженцев. Эх, если бы еще и охрану понадежней! Но сплошных массивов карельской березы в лесу нет, а к каждому отдельному дереву часового не приставишь.

Хочется все же надеяться на разум наших людей. У нас нет серьезных золотых россыпей в земле. Зато они есть на ее поверхности, в лесу. Эти россыпи — деревья карельской березы, рассредоточенные по зеленой кладовой. Надо сделать все, чтобы ни один килограмм этого зеленого золота, высвобождаемого силою обстоятельств (естественная старость, плановые рубки и пр.) не пропадал зря: не уходил "налево", на дрова, не сгнивал без прока на корню. Это — национальное достояние. И пользоваться им (в разумных, естественно, рамках) должно в первую очередь государство, а не случайные люди. И пора бы ему уже обратить на карельскую березу более пристальное внимание.

**Леонид ЕМЕЛЬЯНОВ, доктор биологических наук.**

ФУТБОЛ

## *«Днепр» падклаў барысаўчанам «свінню»*

*Хоць свіную галаву на матч прынеслі менавіта барысаўскія фанаты.*

Пасля гульні балельшчыкі спрабавалі пакінуць галаву каля раздзявальні каманд, але супрацоўнікі міліцыі не дазволілі гэта зрабіць.

Дарэчы, "Днепр", грэблівая мянушка якога "свінні", перамог БАТЭ з лікам 2:1.

Іншыя вынікі матчаў 7-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе: "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) — "Дынама" (Мн) — 2:3, "Мінск" — "Дынама" (Бр) — 2:0, "Нафтан" (Наваполацк) — "Нёман" (Гродна) — 0:0, "Шахцёр" (Салігорск) — "Белшына" (Бабруйск) — 3:0, "Гомель" — "Славія" (Мазыр) — 2:1.

Наступны тур пройдзе 11 і 12 мая: БАТЭ — "Нафтан", "Нёман" — "Шахцёр", "Мінск" — "Днепр"; "Дынама" (Бр) — "Дынама" (Мн), "Славія" — "Тарпеда-БелАЗ", "Белшына" — "Гомель".

**Становішча каманд пасля 7-га тура**

| КАМАНДА | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Шахцёр | 7 | 5 | 1 | 1 | 11—2 | 16 |
| 2. БАТЭ | 7 | 4 | 1 | 2 | 11—8 | 13 |
| 3. Нёман | 7 | 3 | 3 | 1 | 9—5 | 12 |
| 4. Дынама (Мн) | 7 | 3 | 3 | 1 | 10—7 | 12 |
| 5. Днепр | 7 | 3 | 2 | 2 | 7—5 | 11 |
| 6. Белшына | 7 | 3 | 2 | 2 | 5—7 | 11 |
| 7. Гомель | 7 | 2 | 3 | 2 | 6—6 | 9 |
| 8. Мінск | 7 | 2 | 3 | 2 | 5—6 | 9 |
| 9. Тарпеда-БелАЗ | 7 | 2 | 2 | 3 | 6—8 | 8 |
| 10. Дынама (Бр) | 7 | 1 | 1 | 5 | 5—11 | 4 |
| 11. Нафтан | 7 | 0 | 4 | 3 | 2—6 | 4 |
| 12. Славія | 7 | 0 | 3 | 4 | 2—8 | 3 |

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906 nv@promedia.by http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



**Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 6.05.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27060 экз. Заказ №1998.**